

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 527 СЬНЕЖАНЬ 2006 г.
Год выданьня 57

## 27 лістапада - угодкі Слуцкага Збройнага Чыну

# Небясьпека расейскага фашызму



Цяпер Масква і Лубянка вырашылі цалкам узяць пад свой расейскі кантроль лукашэнкаўскую падстаўную апазыцыю (шляхам павялічанага фінансавага датаваньня, каб маніпуляваць ня толькі беларускай палітыкай, але і Лукашэнкам). Псэўда-апазыцыя тут-жа пачала разварочвацца на Маскву і нават дзяліцца на больш прамаскоўскіх (камуністы, АГП) і менш прамаскоўскіх.

У гэтай сувязі мушу падкрэсьліць вельмі істотны момант. Маскоўскі гэбізм перараджаецца і разьвіваецца ў бок клясычнага фашызму нямецкага ўзору. У расейскіх умовах гэта можа вырабіцца ў зьяву значна страшнейшую і разбуральнейшую,чым камунізм са сваім гулагам, голадам і рэпрэсіямі. Дзеля гэтага ўжо створаны эканамічны базіс (прыватная ўласнасьць, зьліцьцё прыватнага і дзяржаўнага капіталу) аналягічны як у Нямеччыне 30-х гадоў. Тое-ж і ў палітычнай структуры Расеі. КГБ, трымаючы абсалютную ўладу ў імпэрыі, займае ў сыстэме тое-ж месца (толькі больш унівэрсальнае), якое займалі "СС" і "Гестапа" ў гітлераўскім "райху".

Слабасьць расейскага гэбізму - у адсутнасьці ўсеагульнай ідэалёгіі (якую меў якраз камунізм). Але мы бачым, што абсалютызацыя карпаратыўнай улады ў Расеі і пошукі дзяржаўнай ідэалёгіі ідуць (прытым сьведама і мэтанакіравана) па шляху расейскага нацызму. Разгортваньне ксэнафобіі, этнічныя чысткі, тэраризм і сыстэма заказных забойстваў, стварэньне штучных прафашыстоўскіх арганізацыяў ("казакі", розныя партыйкі, "саюзы" і т. п.) — усё гэта праявы фармаваньня фашыстоўскай сыстэмы расейскага гэбізму (мы ўжо ня кажам пра Беслан, ваенныя дзеяньні, апэрацыі за мяжой і т. п.).

Небясьпека найперш у тым, што гэтая стара-новая расейская палітыка непасрэдным чынам закранае і насоўваецца на Беларусь. Сутнасьць яе стратэгіі — зьнішчэньне Беларускай нацыі. Пачалі з сымбаляў. Цяпер дабіваюць ўжо нацыянальную школу і пасьлядоўна вынішчаюць мову, ідзе нечуваная алькагалізацыя беларускага насельніцтва. Бліжэйшы разгляд гэтай тактыкі і стратэгіі уражвае празрыстай аналёгіяй і дэталёвым паўтарэньнем пляну Бормана (які немцы не пасьпелі ажыцьцявіць у Беларусі).

Мы павінны ведаць, што людзі, якія ідуць у беларускую палітыку, ня бачачы, не разумеючы і ня хочучы разумець, як, хто і чаму зьнішчае Беларускі народ, гэтыя людзі, як правіла, прынясуць шкоду Беларусі і асабіста сабе. Сьлепата ёсьць сьлепата. Ёй нішто ня хваліцца. Бяда, аднак, у тым, што нясьпеласьць асобы зусім не ад недахопу інфармацыі, але ад несфармаванасьці нармальнай нацыянальнай сьведамасьці, якая месьціцца не ў галаве, а ў сэрцы, у веры, у самой істоце чалавека.

У існуючым становішчы грамадзтва бязь сьпелай нацыянальнай сьведамасьці практычна цалкам безабароннае перад фашыстоўскай чужынскай палітыкай. Мінулі часы народнікаў, будзіцеляў ды асьветнікаў, цяпер іншы час, але тое, што было вынішчана разам з пакаленьнямі, мусіць быць вернута, інакш немагчыма ні рухацца, ні абараняцца, ні наступаць. Трэба ўмела скарыстаць ціскі задуху антыбеларускага рэжыму для пратэстнага падняцьця нацыянальнай сьведамасьці і культуры. Так рабілася заўсёды ў часы рэакцыі і паралічу адкрытага змаганьня. Павінна быць ідэйная і духовая база, стоячы на якой людзі змогуць супроцьстаяць расейскаму фашызму і не дадуць яму захапіць Беларусь.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ЗВАРОТ

### Старшыні Рады БНР з нагоды 86 угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну



Дарагія Суродзічы! Віншую Вас з нашым вялікім сьвятам, Днём Памяці Герояў Слуцкага Збройнага Чыну, якія 86 гадоў таму пайшлі ахвяроўваць сваім жыцьцём, каб жыла Бацькаўшчына.

Прашу Вас адзначыць Слуцкі Збройны Чын, як гэта мы робім кожны год, калі не на супольнай урачыстай акадэміі, дык прынамсі хвілінай маўчаньня кругом сьвечкі ў памяць змагароў.

Хацела-б, каб усе мы прыпомнілі адначасна нашых сёлетніх маладых герояў, якія ў сакавіку месяцы паказалі сьвету, што яны таксама гатовыя змагацца за волю і незалежнасьць Беларусі. Падчас майго падарожжа ў Прыбалтыку і Польшчу ў кастрычніку месяцы я мела шчасьце спаткаць некаторых з гэтых маладых герояў. Так як нашыя Случчакі, яны заслугоўваюць нашай павагі і ўдзячнасьці. Яны мяне запэўнілі, што ЯНЫ дасягнуць волі для свайго народу.

Дык памажы ім Божа! Жыве Беларусь!

***Івонка СУРВІЛЛА***

# КАНГРЭС БАЗА

***Пасьля інтэнсіўнага абмеркаваньня на паседжаньні Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 18 лістапада сёлета дзеля абмежаванага часу праведзенай дасюль падрыхтоўкі, недастатковай узаемнай камунікацыі й нявызначанай працэдуры выбару дэлегатаў, было вырашана перанесьці правядзеньне Кангрэсу БАЗА на Мэмарыял-дзень, 26 траўня 2007 году. Кангрэс пройдзе ў Брукліне, Нью Ёрк.***

***Беручы пад увагу важнасьць падрыхтоўкі да Кангрэсу, ствараецца камісія, якая будзе зьдзяйсьняць вышэпрынятае рашэньне й прыйме захады што да працэдуры, згодна зь якой пройдзе маючы адбыцца Кангрэс.***

***Галоўная Ўправа БАЗА***

# Сустрэча з дэпутатамі

У суботу, 4 лістапада, у грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага адбылася сустрэча беларускай грамады Нью Ёрку і Нью Джэрзі з дэлегацыяй дэпутатаў мясцовых саветаў зь Беларусі, якая наведала ЗША па запрашэньні ўрадавых арганізацыяў. У складзе дэлегацыі былі дэпутат Гарадзенскага гарсавету сп. Сяргей Антусевіч (партыя БНФ), дэпутат Мазырскага гарсавету сп. Леанід Арлоў (АГП), дэпутат Спораўскага сельсавету і Бярозаўскага райсавету сп. Яўген Пракурат (партыя БНФ) і дэпутат Белазёрскага гарсавету сп. Віталь Прыхач (партыя БНФ). Спн. Вольга Карач зь Віцебскага гарсавету не змагла прыйсьці на сустрэчу.

Напачатку сустрэчы старшыня Нью Ёрскага аддзелу БАЗА коратка распавёў гасьцям пра беларускую грамаду ў Амэрыцы, пра дзейнасьць БАЗА і пра БАПЦ. Затым кожны з гасьцей сыцісла распавёў пра сябе і сваю дзейнасьць, пасьля чаго завязалася шчырая нязмушаная размова ў выглядзе пытаньняў і адказаў.

Сп. Леанід Арлоў у прыватнасьці сказаў, што амаль усе прысутныя дэпутаты зьяўляюцца адзінкавымі прадстаўнікамі апазыцыі ў сваіх саветах. Усе былі абраныя нягледзячы на шалёны ціск і супрацьдзеяньне на ўсіх этапах выбараў, дзякуючы падтрымцы выбарцаў, пры перавазе, якую ўладам немагчыма было ігнараваць нават пры фальшаваньні вынікаў выбараў. Нажаль, за мінулыя 4 гады становішча зьмянілася ў горшы бок, і цяпер на абраньне хаця-б такой, як сёньня, колькасьці апазыцыйных дэпутатаў спадзявацца няма як. Уладам і "вертыкалі" паставілі жорсткую ўмову — ніводнага дэпутата ад апазыцыі анідзе. Далей сп. Арлоў адзначыў: "З 35 дэпутатаў я адзіны ад апазыцыі. Астатнія — дырэктары прадпрыемстваў, саўгасаў, чынавенства і наагул людзі хутчэй прызначаныя, чым абраныя, што нудзяцца сваім дэпутацтвам. Яны проста штампуюць усе рашэньні, якія спускаюцца зьверху "па вертыкалі".

***Заканчэньне на бачыне 4***

# Сьвята адраджэньня царквы

Упачатку гэтага году беларускаму праваслаўнаму прыходу Сьв. Мікалая, Клійленд, Агаё, удалося павярнуць сьвятыню ў рукі праваслаўных вернікаў і на Сьвятую Пасху распачаць Багаслужбы.

А 24-га верасьня адбылася гістарычная падзея ў жыцьці праваслаўных беларусаў Клійленду ды й ўвогуле ўсёй нашай дыяспары. Старая беларуская праваслаўная царква, будынак якой ужо прадалі ды лічылі даўно страчаным, зноў распачала сваё існаваньне праз Архіярэйскае асьвячэньне царквы і прастолу.

На просьбу настаяцеля пратаярэя Зьміцера Беленькага і вернікаў іхны прыход наведаў Архіяпіскап Уманьскі й Дэтройцкі Аляксандар (Быкавец) УАПЦ Кіеўскага Патрыярхату. Уладыка добра вядомы сярод праваслаўных беларусаў, бо шматразова аказваў нам усялякую дапамогу, асабліва пасьля адыходу ў Валадарства Божае вечнай памяці Мітрапаліта Мікалая, Першага Ярарха БАПЦ.



Духавенства і вернікі сьвяточна віталі Архіярэя, якому служылі восем сьвятароў, сярод якіх быў і шматгадовы настаяцель царквы пратапрэсьвітар Міхась Страпко, які маліўся разам зь імі ў аўтары.

Прыемна зьдзівіла і ўразіла ўсіх тое, што Уладыка Аляксандар у часе асьвячэньня прыстолу самыя доўгія малітвы чытаў пабеларуску, а на Сьв. Літургіі Дабравесьце пераклаладу Мітрапаліта Мікалая. Падчас казаньня Уладыка распавёў пра пакутніцкі лёс БАПЦ і ўзгадаў нашых памёрлых ярархаў Архіяпіскапаў Сяргея, Васіля, Андрэя і Мікалая. Ад імя ўдзячных вернікаў і на малітоўны ўспамін а. Зьміцер падарыў Архіяпіскапу Аляксандру панагію.

Па заканчэньні Багаслужбы ўсе шматлікія госьці былі запрошаныя ў царкоўную залю, дзе іх чакалі смачна прыгатаваныя стравы. Сьвяточны настрой яшчэ праз доўгі час напаўняў сэрцы прысутных, асабліва тых беларусаў, якія ўжо не спадзяваліся вярнуцца ў сьцены сьвятыні, збудаванай у 1959 годзе іхнімі ўласнымі рукамі.

І ўсіх цешыла тое, што сьвятыня ізноў беларуская і ўзносіцца ў ёй малітва да нашага Збаўцы ў нашай роднай мове.

*З. СТАРАВОЙТАЎ*

# Трыбунал па Судану

## прыклад магчымага працэсу па Беларусі

Зьдзек уладаў Судану над насельніцтвам правінцыі Дарфур міжнароднымі ўстановамі, уключна з Арганізацыяй Аб'еднаных Нацый, ужо доўна лічыцца генацыдам. Аднак, прыняць адэкватныя меры ня могуць, бо пануючы ў Судане рэжым мае грунтоўную падтрымку Кітаю і Расеі ў Радзе Бясьпекі ААН. А ў Дарфуры да гэтага часу загінула каля паўмільёну чалавек, і лік цывільных ахвяраў няспынна расьце.

13-га лістапада сёлета ў Нью Ёрку ў Царкоўным Цэнтры ААН прайшоў Міжнародны Грамадзкі Трыбунал па Судану, скліканы ўстановай "Прысуд Генацыду" ***www.judgmentongenocide.org*** .

У генацыдзе быў абвінавачаны прэзыдэнт Судану Амар аль-Башыр разам з шэрагам паплечнікаў. Галоўным Пракурорам Трыбуналу быў былы канадыйскі парлямэнтар міністар Давід Кілгор. Ён, між іншага, добры знаёмы Старшыні Рады БНР, і заўсёды спрыяў разьвіцьцю дэмакратыі ў Беларусі. Ён спэцыяльна запрасіў прадстаўнікоў беларускай дыяспары прысутнічаць на Трыбунале.

У якасьці адвакатаў абодвых бакоў былі аўтарытэтныя юрысты. Сярод сьведкаў быў і славенскі журналіст Томо Крыжнар, які пацярпеў ад суданскага рэжыму. Суд складаўся зь пяці дасьведчаных судзьдзяў, галоўным зь якіх быў нігерыйскі паэт, пісьменьнік і драматург Уоле Сойінка, колішні ляўрэат Нобелеўскай прэміі ў літаратуры. Ён таксама быў ахвярай дыктатуры, правёўшы амаль два гады ў нігерыйскай турме.

Трыбунал прызнаў кіраўнікоў Судану вінаватымі ў злачынствах супраць чалавецтва, у генацыдзе ў Дурфуры і ў ваенных злачынствах. Вядома, як грамадзкі трыбунал, ён даў толькі маральны прысуд, пакідаючы магчымасьць выкананьня яго міжнароднымі судовымі ўстановамі.

Чытачам будзе цікавы той факт, што ў сьпісе "Найгоршых дыктатараў сьвету", які быў сёлета апублікаваны амэрыканскім часапісам "Parade", побач із суданскім дыктатарам быў і Аляксандар Лукашэнка, хоць і на шмат ніжэйшым месцы.

*Наглядчык на Трыбунале*

# Патрэба ўзаемадзеяньня

У часапісе "Belarusian Review" (за восень) зьмешчаны артыкул "Дождж бяз грому" аўтара Гэнры В. Джонсана пра дзейнасьць апазыцыі ў Беларусі й замежжа. Пабыўшы ў розных мясцовасьцях Беларусі, ён сьцьвярджае, што сытуацыя там цяжкая і складаная – штось беларус не рабіў для паляпшэньня стану грамадзтва, усе ягоныя чалавечыя правы амаль цалкам адбіраюць. У выніку гэтага грамадзтва западае ў апатыю.

Але гляньце і на замежжа, - кажа Джонсан, - дык і тут ёсьць недахопы – адсутнічае ўзаемадзеяньне паміж большасьцю дыяспары й малымі групкамі актывістаў. Асабліва, калі ўлічыць, што па статыстыцы ў ЗША прыбыло 700 000 чалавек зь Беларусі, якія адразу сталіся вольнымі ды атрымалі магчымасьці для беспершкоднага дзеяньня.

Напрыклад, беларусы замежжа хацелі-б бачыць дэманстрацыі ў Беларусі масавымі, а самыя ў час выбараў выстаўлялі толькі невялікія групы.

Беларусы дыяспары перш мусілі-б зарганізавацца ў моцнае этнічныя асяродкі – стварыць фундацыі, бібліятэкі, музэі, архівы, школы для беларусаведы і патрыятызму, а перад усім найбольш пашыраць прэсу дыяспары. На гэта патрабуецца праўдзівае і шчырае памкненьне ўсіх беларусаў дыяспары і дастатковая колькасьць актывістаў. Сп. Джонсан уважае, што дыяспара можа дапамагчы Беларусі тады, калі стане паважнай сілай.

Джонсан – гэта студэнт-амэрыканец, які пасябраваў з маладымі беларусамі ды пачаў дзейнічаць разам зь імі.

*С.*

## Бэльгія

На Дзяды ў бэльгійскім горадзе Лювэне адбылося ўрачыстае набажэнства на магіле выдатнага беларускага кампазытара Міколы Равенскага. Так тамтэйшыя беларусы адзначылі Дзяды.

На могілках у Лювэне сабраліся больш за два дзясяткі беларусаў – эміграннтаў старэйшага пакаленьня, а таксама маладзейшых актывістаў Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня. З кароткаю прамоваю выступіў Старшыня Задзіночаньня Зьміцер Піменаў.

Грэка-каталіцкі сьвятар з Антвэрпэну а. Ян адправіў паніхіду па продках. З прамовай выступіў і вядомы дзяяч беларускай эміграцыі Янка Жучка – ён адзіны сярод прысутных асабіста добра ведаў Міколу Равенскага.


На могілках у Лювэне.

Каля 15 беларусаў правялі 6 лістапада пікет супраць падтрымкі Расеяй цяперашніх беларускіх уладаў. Нагодай для акцыі сталася гадавіна ад дня арышту старшыні Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня Зьмітра Піменава ў часе гададоўкі пратэсту таксама супраць падтрымкі Масквою беларускага рэжыму. Паводле ўдзельнікаў акцыі, дагэтуль невядома, за што спадара Піменава трымалі ў брусэльскай вязьніцы 38 дзён.

*Радыё Свабода*

## Летува

Таварыства Беларускай Культуры ў Літве 25 лістапада адзначыла Дзень Героя, 86-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Заля была ўпрыгожаная плякатамі. Сп. Алесь Адамковіч цікава распавёў аб прычынах і ходзе Слуцкага паўстаньня. Андрусь Старавойтаў прасьпяваў патрыятычныя песьні, прысьвечаныя гэтай даце.

У другой частцы імпрэзы адбылася прэзэнтацыя кнігі "Галасы разбуджаных птушак" краязнаўцы й гісторыка Міхася Казлоўскага, вельмі цікавага, насычанага фактычным матар'ялам, праўдзівага выданьня, якое распавядае пра людзей, якія пры ўсіх акупацыйных уладах служылі беларускаму адраджэньню, але якім сёньня ў Беларусі не знайшлося месца і павагі да іхнай памяці.

Рэцэнзію да кнігі зрабіла Леакадзія Мілаш.

За кубкам кавы яшчэ доўга абмяркоўвалі слаўную дату нашай гісторыі, а таксама дзякавалі аўтару за цэнную кнігу.

Грамада ТБК падтрымала ідэю збору сродкаў для выданьня наступнай кнігі Міхася Казлоўскага.

*Хведар НЮНЬКА*

## Чэхія

На Альшанскіх могілках у Празе пахаваныя два прэзыдэнты БНР – Пётра Крэчэўскі і Васіль Захарка. Абодва яны, па чарзе, перахоўвалі ў эміграцыі мандат першага незалежнага беларускага ўраду. Пётра Крэчэўскі памёр у 1928-м годзе, Васіль Захарка – у 1943-м. Помнікі на магілах беларускіх дзеячоў былі аднаўленыя коштам Фундацыі імя Крэчэўскага, якая закладзеная беларускімі эмігрантамі ў ЗША.

2 лістапада сёлета, як і ў ранейшыя гады, на Альшанскія могілкі прыйшлі сябры суполкі "Скарына", Зьвязу беларусаў замежжа, студэнты і стажоры, якія вучацца ў гэтыя дні ў Чэхіі. Сярод іх і чатыры радныя БНР – Аляксандр Лукашук, Сяргей Навумчык, Юрка Станкевіч, Уладзіслаў Яндзюк.

Згадваючы складаны і цалкам яшчэ недасьледаваны праскі пэрыяд ураду БНР, гаварылі і пра ролю сакратаркі-апякункі Ларысы Геніюш, якая па сьмерці Захаркі (у яе ўспамінах "дзядзька Васіль") некаторы час заставалася адказнай за лёс спадчыны БНР.

Згадвалі ўсіх выбітных беларусаў, чый лёс быў зьвязаны з Прагай. Сяргей Навумчык гаварыў пра Васіля Быкава, Юрка Станкевіч прыпомніў, як яшчэ застаў тут Забэйду-Суміцкага, наведваў пэўны час кватэру, у якой на сьпеў гаспадара ў вокнах рэзанавалі шыбы...

Збор на Дзяды стаў для беларускай грамады адной з рэдкіх магчымасьцяў сустрэчы ў шырэйшым коле. Пыталіся пра навіны зь Беларусі, дзяліся ўласнымі. На разьвітаньне ўсе фатаграфаваліся на прыступках царквы – на гэты раз з унікальным сьцягам, які летась перадалі суполцы "Скарына" абаронцы лягеру на Кастрычніцкай плошчы ў Менску.

*Радыё Свабода*

# Беларусь за месяц

## Сустрэча з Дж. Бушам

28 лстапада прэзыдэнт ЗША сустрэўся ў Рызе, дзе адбываўся саміт НАТО, з прадстаўнікамі беларускай апазыцыі – старшынём Палітрады аб'яднанай апазыцыі Аляксандрам Мілінкевічам, міжнародным каардынатарам "Хартыі-97" Андрэем Саньнікавым і былым палітвязьнем Міхаілам Марынічам.

Беларускіх палітыкаў прадставіла Джорджу Бушу прэзыдэнтка Латвіі Вайра Віке-Фрэйбэрга.

Падчас сустрэчы прэзыдэнт ЗША выказаў салідарнасьць зь беларускім народам ў яго барацьбе за правы і свабоду. Напярэдадні сустрэчы зь беларускімі апазыцыянэрамі Дж. Буш, выступаючы ў Латвійскім унівэрсытэце, закрануў тэму Беларусі. Ён, у прыватнасьці, прыгадаў, што ў Беларусі зьніклі Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Юры Захаранка і Дзьмітры Завадзкі. Прэзыдэнт ЗША сказаў: "Побач, празь мяжу, знаходзіцца Беларусь – месца, дзе мірных дэманстрантаў б'юць, а апазыцыйныя лідэры "зьнікаюць" пры дапамозе агентаў жорсткага рэжыму. Існаваньне такога дыктату сярод нас абражае сумленьне Эўропы і сумленьне Амэрыкі. Мы гаворым народу Беларусі: нашае бачаньне адзінай, свабоднай і мірнай Эўропы ўключае і вас, і мы стаім побач з вамі ў вашай барацьбе за свабоду".

## Дзяды ў Курапатах

На Дзяды ў Курапатах адбыўся мітынг, які пачаўся ля Крыжа пакутнікам Беларусі. Некалькі сотняў прысутных прасьпявалі гімн "Магутны Божа". Удзельнікі акцыі падняліся на ўзгорак, які ў народзе называюць Беларускай галгофай. Перад прысутнымі выступілі кіраўнікі Кансэрвачыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргей Папкоў, Юрась Беленькі і Алесь Чахольскі.

Валеры Буйвал заклікаў да байкоту выбараў у мясцовыя саветы і да супраціву магчымаму рэфэрэндуму ў пытаньні канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы.

У зачытаным лісьце Зянона Пазьняка прагучаў заклікаў на Дзяды паклясьціся перад продкамі на вернасьць Айчыне. Прадстаўнікі "Маладога Фронту" заклікалі падтрымаць іх лідэра Зьміцера Дашкевіча, суд над якім павінен быў пачацца праз дзень.

Мітынг скончыўся малітвай сьвятара незарэгістраванай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы Леаніда Акаловіча.

Удзельнікі акцыі ўсталявалі 12 крыжоў.




На мітынгу ў Курапатах.

## Акцыя салідарнасьці

16 лістапада прайшоў традыцыйны дзень салідарнасьці зь сем'ямі зьніклых беларускіх палітыкаў і палітвязьнямі.

У Менску а 8-й гадзіне вечара некалькі дзясяткаў актывістаў маладзёвага дэмакратычнага руху сабраліся ля будынку чыгуначнага вакзалу са сьвечкамі ў руках. Праз некалькі хвілін пасьля пачатку акцыю разагналі супрацоўнікі міліцыі. Байцы спэцназу затрымалі 9 удзельнікаў акцыі, а таксама чатырох фатакарэспандэнтаў, якія прысутнічалі на акцыі.

Акцыі адбываліся ня толькі ў Менску, але і ў рэгіёнах. На Берасьцейшчыне моладзь вывешвала партрэты зьніклых і палітвязьняў. У Салігорску моладзёвыя актывісты правялі флэшмоб, а таксама ланцуг салідарнасьці. У Віцебску моладзь сабралася каля помніка Ўладзімеру Караткевічу. Хтосьці прыйшоў з каляровымі балёнікамі, іншыя – са сьвечкамі. Міліцыя затрымала чатыры чалавекі.

Каля ста чалавек прыйшлі ў цэнтар Варшавы зь бел-чырвона-белымі беларускімі і белачырвонымі польскімі сьцягамі, партрэтамі зьніклых палітыкаў, Зьмітра Дашкевіча і транспарантамі з надпісамі: "Мы памятаем пра злачынствы рэжыму!", "Свабоду палітвязьням!".

Акцыі салідарнасьці прайшлі таксама ў Кракаве, Познані, Уроцлаве, Гданьску і Лодзі. У Любліне некалькі дзясяткаў маладых людзей патрабавалі вызваленьня Зьмітра Дашкевіча, а ў Беластоку каля будынку беларускага консульства прайшла акцыя пад лёзунгам "Памяняем Дзіму на Сашу", удзельнікі якой скандавалі, што месца ў турме не Зьмітру Дашкевічу, а цяперашняму кіраўніку Беларусі.

## Галадоўка спыненая

28 кастрычніка вернікі суполкі "Новае жыцьцё" атрымалі адказ з Вышэйшага гаспадарчага суду аб тым, што наглядная камісія апратэставала рашэньне Менскага гаспадарчага суду. Згодна зь ягоным прысудам на рахунак царквы пералічылі 35 мільёнаў рублёў кампэнсацыі за храм вернікаў, а сам будынак перавялі ў гарадзкую маёмасьць. У гэты-ж дзень вернікі спынілі галадоўку, якая трывала 23 дні.

Пазьней Вышэйшы гаспадарчы суд адмяніў судовыя рашэньні гарадзкога суду, паводле якіх пратэстанцкай суполкі "Новае жыцьцё" пазбавілі зямельнага надзелу, а храм вернікаў перавялі ў гарадзкую маёмасьць. Вышэйшы гаспадарчы суд сам будзе разглядаць справу, якая выклікала шырокі розгалас у грамадзтве. Вернікі спадзяюцца, што ў хуткім часе судовыя ўлады больш прыязна паставяцца да пратэстантаў.

## Суд над З. Дашкевічам

Лідэра "Маладога Фронту" Зьмітра Дашкевіча абвінавацілі ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі. Ад 15 верасьня яго трымалі ў сьледчым ізалятары. Суд адбыўся за зачыненымі дзьвярыма. Падчас працэсу ля будынку суду сабраліся больш за тры сотні чалавек — паплечнікі маладафронтаўца, амбасадары краінаў Эўразьвязу й ЗША, палітыкі й грамадзкія дзеячы.



*Прыхільніка З. Дашкевіча ля будынка суда.*

1 лістапада суд Кастрычніцкага раёну Менску пакараў Зьмітра Дашкевіча зьняволеньнем на паўтары годы з адбыцьцём пакараньня ў калёніі агульнага рэжыму. Гэта ўжо пяты апазыцыянэр, пакараны паводле новага артыкулу Крымінальнага кодэксу, які прапанаваў напярэдадні выбарчай кампаніі старшыня КДБ Сьцяпан Сухарэнка.

Судзьдзі Кастрычніцкага раёнага суду Але Булаш спатрэбілася паўтары дні, каб разгледзець справу Зьмітра Дашкевіча, які не адмаўляўся ад удзелу ў дзейнасьці "Маладога Фронту".

Судзьдзя дазволіла прысутнічаць на абвяшчэньні прысуду бацьку Зьмітра, прадстаўнікам АБСЭ, амбасадарам ЗША і краінаў Эўразьвязу, а таксама некалькім журналістам.

Міжнародная ліга правоў чалавека – няўрадавая арганізацыя з спэцыяльным кансультацыйным статусам у ААН – выказала глыбокую занепакоенасьць у сувязі з асуджэньнем Зьмітра Дашкевічу. У лісьце, накіраваным на адрас Лукашэнкі, Ліга заклікае яго забясьпечыць беларускім грамадзянам магчымасьць выказваць свае погляды бяз боязі апынуцца пад судовым перасьледам.

Ліга правоў чалавека патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызваленьня Зьмітра Дашкевіча і іншых беларускіх палітычных зьняволеных.

Міністар замежных справаў Канады Пітэр Маккей зрабіў заяву з нагоды прысуду Зьмітру Дашкевічу. У ёй адзначаецца, што канадыйскі ўрад занепакоены дзеяньнямі беларускіх уладаў, якія парушаюць правы чалавека і дэмакратычныя прынцыпы. Канадзкі міністар заклікаў беларускі ўрад паважаць фундамэнтальныя прынцыпы правоў чалавека і элемэнтарныя юрыдычныя нормы.

Напярэдадні старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла зьвярталася да канадзкіх палітыкаў з просьбай падтрымаць беларускіх палітычных вязьняў, акцэнтуючы ўвагу на рэпрэсіях супраць моладзевых лідэраў.

## М. Астрэйку адпусьцілі

17 лістапада са Шклоўскай калёніі быў вызвалены лідэр незарэгістраванай арганізацыі "Партнэрства" Мікалай Астрэйка. Яму зьмянілі рэжым адбыцьця пакараньня на папраўчыя працы. Зараз Мікола знаходзіцца дома. Днямі ён упершыню пабачыў сваю дачку Лізу, якая нарадзілася, калі Мікола быў у турме.

Цяпер міліцыю мусіць вызначыць, дзе ён будзе працаваць. Астрэйка быў арыштаваны ў лютым сёлета і атрымаў два гады турмы за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі. Яшчэ адзін сябар "Партнэрства" Цімафей Дранчук, якога асудзілі на год турмы, застаецца за кратамі.

## Вэб-старонка супраціву

"Партызанфільм" – такую назву мае новая старонка ў інтэрнэце, прысьвечаная тэме беларускага супраціву. Гэта – прыватная ініцыятыва маладых беларусаў, якія жывуць за мяжой.

Ініцыятары праекту падкрэсьліваюць, што іх старонка пачала дзейнічаць 27 лістапада, у гадавіну Слуцкага Збройнага Чыну. "Партызанфільм" мае намер стварыць цыкль парадакумэнтальных фільмаў, прысьвечаных беларускаму нацыянальнаму збройнаму супраціву ды барацьбе за незалежнасьць Беларусі. На сайце прадстаўлены ролік першага цыклю фільмаў, прысьвечаных пасьляваеннаму антыбальшавіцкаму ўзброенаму супраціву. Інтэрнэт-адрас новага праекту **www.partyzanfilm.net**

## Сфальшаваныя выбары

23 лістапада А. Лукашэнка зазначыў украінскім журналістам, што ён не комплексуе, калі яго называюць апошнім дыктатарам Эўропы й вінавацяць у фальшаваньні выбараў.

Ён сказаў: "Так, мы сфальшавалі мінулыя прэзыдэнцкія выбары. Я ўжо заходнікам гэта сказаў. За прэзыдэнта Лукашэнку прагаласавала 93,5% выбарцаў. Але гавораць, што гэта не эўрапейскі паказчык. Мы зрабілі 86. Гэта праўда было. І калі пачаць пералічваць бюлетэні, я не ведаю, што зь імі рабіць увогуле. Эўрапейцы да выбараў кажуць, што калі будуць эўрапейскія паказчыкі, то мы іх прызнаем. Мы пастараліся, але таксама ня выйшла. Паабяцалі, што калі будуць эўрапейскія, то ўсё будзе нармальна. Але ўсё роўна ненармальна".

## Рэзалюцыя ААН

Трэці камітэт Генэральнай асамблеі ААН прыняў рэзалюцыю аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі. Рэзалюцыя прынятая па ініцыятыве ЗША і краін Эўразьвязу.

У дакумэнце гаворыцца, што ў Беларусі пашыраецца практыка ціску і крымінальнага перасьледу прадстаўнікоў апазыцыі, праваабаронцаў, журналістаў і няўрадавых арганізацыяў. Таксама ў рэзалюцыі гаворыцца, што афіцыйны Менск не выконвае міжнародныя забавязаньні ў справе правядзеньня свабодных і справядлівых выбараў. Аўтары рэзалюцыі заклікаюць беларускія ўлады прывесьці выбарчы працэс і заканадаўства ў адпаведнасьць зь міжнароднымі стандартамі.

*Паводле Радыё Свабода*

## Архівы Радзівілаў

Беларускія архівы роду Радзівілаў увайшлі ў праект ЮНЭСКА "Памяць сьвету". Аб гэтым распавёў на міжнароднай канфэрэнцыі "Праграма ЮНЭСКА "Памяць сьвету": дзейнасьць бібліятэк, архіваў, музэяў па захаваньні культурнай спадчыны" прадстаўнік польскай галіны роду – Мацей Радзівіл.

Па яго словах, Беларусь уваходзіць у праграму "Памяць сьвету" з праектам "Нясвіж – культурны цэнтар Эўропы і нацыянальны помнік". У яго рамках ствараецца электронны банк дадзеных, у які будуць уключаныя ўсе дакумэнты з архіву. "Ваша краіна валодае значнай часткай нясвіжскага збору – тут захоўваецца больш за 28 тыс. адзінак дакумэнтаў, кнігаў, рукапісаў. Прыкладна столькі-ж ёсьць у Польшчы, малазначных, але важных рукапісы засталіся ў Летуве, Расеі й Украіне. Усе гэтыя краіны аб'яднаі намаганьні й ствараюць агульны віртуальны варыянт архіву", – сказаў ён.

"Дакумэнтальная спадчына не павінна быць прадметам спрэчак, а элемэнтам плённага супрацоўніцтва краінаў. Такі архіў дазволіць людзям больш пазнаць ня толькі аб гісторыі роду, але і аб гісторыі краінаў, у якіх жылі яго прадстаўнікі", – лічыць Мацей Радзівіл.

*charter97.org*

# Сустрэча з дэпутатамі

***Заканчэньне з бачыны 1***

Аднак прысутнасьць нават аднаго апазыцыянэра ўносіць неспадзяваныя для ўладаў зьмены. Удаецца вырашаць пытаньні на карысьць людзей, а не сыстэмы — пераважна на стадыі падрыхтоўкі праектаў пастановаў. Калі ты адзін, а рэшта "дэпутатаў" глядзіць у рот мэру (фактычна мясцоваму прадстаўніку Лукашэнкі), атрымліваецца сытуацыя адной жанчыны ў мужчынскай кампаніі. Прыклад. Перад прэзыдэнцкімі выбарамі мэр Мазыра на сэсіі гарсавету стаў казаць, што трэба правесьці падрыхтоўку і забесьпячыць "належныя" вынікі выбараў. "Бо як не атрымаецца — паглядзіце, што з кожным з вас будзе!" А я і пытаю яго: "І што-ж такое будзе?" Той ажно падскочыў — забыўся, што ў залі ёсьць апазыцыянэр, "агент ворожага боку". Разам з тым хоцькі-няхоцькі на паседжаньнях гарсавету робіцца абмеркаваньні, а не выкананьне загадаў. Канкрэтная праца па запытах выбарцаў, дапамога людзям. Нагляд за тым, каб сродкі ішлі на прызначаныя мэты, каб эфэктыўна выкарыстоўваліся. Гэта цяжкая штодзённая, часам наўдзячная праца, але яна патрэбная.

Сп. Сяргей Антусевіч з Горадні сказаў наступнае: "Рэальна вырашаць пытаньні, якія ўздымаюць людзі — напрыклад заасфальтаваць вуліцу, правесьці асьвятленьне і г. д. — можна толькі "вялікай крывёй". Большасьць маіх "калегаў", фактычна падпарадкаваных рэжыму, імкнецца адцерці, ня даць слова, стварае розныя перашкоды. Раўніва ставяцца, каб не прайвіўся нейкі ўплыў, не стварыўся аўтарытэт. Прыклад: пачаў я зь цяжкасьцямі, праз штучныя перашкоды, дабівацца дапамогі для адной шматдзетнай маці, што жыла зь сям'ёю ў жудасных умовах. Калі ўсё было ўжо амаль вырашана, справу літаральна выхапіў з рук дэпутат аблсавету, прадстаўнік БРСМ (Лукашэнкавай маладзёвай арганізацыі), і газэты сталі падаваць тую дапамогу як цалкам ягоную заслугу, ані слова пра мяне, бо апазыцыянэр. Забаронена, каб людзі ведалі, што апазыцыя можа дапамагаць. Але тая мацi добра ведае, хто насамрэч дапамог. З мабчымі адбыцца мясцовымі выбарамі будзе яшчэ цяжэй. Улада баіцца, каб нехта з апазыцыі нават зарэгістраваўся як кандыдат, гэта не дапускаецца пад самымі фантастычнымі й бязглуздымі прэтэкстамі. У 2003 годзе апазыцыя праводзіла назіраньне ў жорсткім рэжыме, была поўная мабілізацыя, нагляд за кожным крокам уладаў. І таму быў нейкі вынік на нашую карысьць. Сёньня шанцаў на посьпех значна меней. Глядзіце, што было на прэзыдэнцкіх выбарах — мясцовыя штабы кандыдата Мілінкевіча былі паралізаваныя. Амаль увесь іхны склад апынуўся за кратамі па выдуманых прычынах — "за лаянку-мацюкі", "за адпраўленьне натуральных патрэбаў", "за хуліганства". Апазыцыя не магла нармальна дзейнічаць, рэжым выраблаў усё, што хацеў. І цяпер, калі дэпутат, скажам, як мой калега Юрась Губарэвіч, едзе ў Менск на нараду — яго пільнуюць, на выезьдзе з Горадні запыняе дарожная міліцыя (ДАІ), трымаюць некалькі гадзінаў, да вечара, калі тая нарада ўжо скончыцца. Ніякай абароны ад гэтага тэрору няма, ніякія законы не паважаюцца. У такіх умовах даводзіцца працаваць, і часам сам дзівішся, колькі можна зрабіць нават у самых немагчымых абставінах. Мы працуем з народам. Людзі бачаць, што апазыцыя — без рагоў і капытоў. Што прадстаўнікі апазыцыі ў саветах канкрэтна дапамагаюць, адгукаюцца на запыты, прыяжджаюць. Калі прыяжджаеш па запыце — у людзей сьлёзы на вачах, што па-людзску паставіліся, што ўвагу паказалі. Бо заўсёды яны атрымлівалі толькі адмахваньне ды адпіскі. На такіх сустрэчах заўсёды падкрэсьліваю, што належу да БНФ і стаю ў апазыцыі да ўлады. Таму лічу, што такую працу трэба працягваць.

Сп. Віталь Прыхач зь Белазёрску падкрэсьліў, што ўсе прысутныя тут дэпутаты — людзі "партыйныя", і ніколі не хавалі гэтага, як ніколі таксама не хаваліся за нечыя сьпіны. Дзенічаць сапраўды нялёгка. "У 2003 годзе ў Белазёрску з 25 дэпутатаў бальшыня, 13 чалавек, былі абраныя ад апазыцыі. Сёньня сытуацыя памянялася. Нехта зігнаецца пад ціскам рэжыму, нехта зьехаў. Засталіся 5 чалавек, але за гэтыя 4 гады, дзякуючы фактычна апазыцыйнаму гарсавету, у горадзе было зроблена ці ня болей, чым за ўсе гады савецкай улады. Палепшаныя ўмовы жыцьця, заасфальтаваныя вуліцы, жытло збудавана, праведзена асьвятленьне – шмат зроблена. Бо мы, апазыцыя, глядзелі на гэта, як на сваю галоўную справу. "Рэжымным", дэпутатам — гэта не галоўнае, у іх іншыя клопаты — як даглядзець "лінію прэзыдэнта". Калі ён кіраўнік Амэрыку — забойствы, злачынствы, Амэрыка — монстар. Настаўнікі ў школе пра тое-ж. Чалавек пайшоў працаваць, заняўся палітыкай, а яму перарвалі імгненна кантракт, выкінулі на вуліцу. Складана працаваць, канешне. Але затое мы хоць маем законнае права размаўляць з народам, бо сёньня гэта ўжо злачынства ў вачах рэжыму. Будзем працаваць далей, бо мне добра відаць, якую розьніцу робіць нашая праца.

Яўген Пракурат распавёў наступнае: "Я прыйшоў з войска, пачаў працаваць у школе. Сябар БНФ ужо колькі часу. А тут выбары, вырашыў узяць удзел, выставіў сваю кандыдатуру. А супраць мяне — дырэктар школы. Я настаўнік, а ён — мой начальнік. Ціск на мяне, доўгія размовы. Так падступаліся, і гэтак — "Здымі сваю кандыдатуру!" Я не зважаю на гэта, рыхтуюся да выбараў. І вось прыйшлі выбары — людзі прагаласавалі за мяне. Хоць хапала фальсыфікацыяў, але мая перавага была так вялікая, што не змаглі падтасаваць вынікі, прызналі маю перамогу. Я адзін апазыцыйны, як і Леанід Арлоў з Мазыра, і ў райсавеце, і ў сельсавеце. Цяжка працаваць, але і весела часам. Усе астатнія — бы пад прымусам, абы хутчэй скончыць і разыйсьціся. Калі я прысутны — усё ідзе па рэгляменту. Прадпрыемства, дырэктар школы ці саўгасу — колькі ў яго можа застацца часу на дэпутацтва? Няма сілаў, няма часу, няма ўласнай думкі. Іх прызначылі дэпутатамі, яны і робяць усё, што ім скажуць — і ня болей! Таму паўсюль, дзе ёсьць хоць адзін незалежны, апазыцыйны дэпутат — там робіцца справа. Я шмат паезьдзіў, бачыў сваімі вачыма гэта ўсё. Каб хоць 1-2 дэпутаты ў кожным раённым ці сельскім савеце — было-б зьмены па ўсёй Беларусі, абавязкова. І Лукашэнка разумее гэта, баіцца. Цяпер і КГБ, і "вертыкаль" змабілізаваныя й вышкаленыя да такой ступені, якой раней ніколі не было. Цяпер усё праслухоўваецца і праглядаецца — размовы, пошта, паездкі, усё абсалютна. І гэта ў дэпутатаў! А што тады казаць пра звычайных грамадзянаў? Другое — уведзены інстытут ідэалёгіі. Зьявіліся ўсюль намесьнікі дырэктараў па ідэалёгіі. Чыноўнік наагул — звычайны чалавек, нармальны, такі як усе. Не рэвалюцыянэр, канешне, але асабліва лізаць боты таксама ня рвецца. А ў "ідэолягі" каго бяруць? Асобаў, якія заплямілі сябе, на каго лёгка ўплываць, часта людзі няўстойлівыя і псыхічна неўраўнаважаныя. У лякарню трэба чалавека, а яго замест гэтага — у "ідэолягі". Дык вось да кіраўніка прыстаўляюць такога "ідэоляга", каб сачыць і ўплываць, каб нічога і ня думаў пра нейкія зьмены. Пайшлі "верасочкі", піянэры, БРСМ, як у савецкія гады. І вынік — моладзі ўсё менш з дэмакратычнымі поглядамі. Мы вось схапілі глыток свабоды ў пачатку 1990-х, а ў сёнешняй моладзі і таго не было. Па тэлевізару пра



*Сядзяць зьлева направа: Я. Пракурат, С. Антусевіч, В. Прыхач, Л. Арлоў.*

чынаецца абмеркаваньне, дыскусія. Пачынаецца належная праца раённага савету народных (!) дэпутатаў. Калі аднаго разу ня змог быць на паседжаньні — мне расказвалі, што яно заняло ўсяго 5 хвілін — галасаваньне, усе—"за", і разыйшліся. Тым ня менш сёе-тое ўдалося зрабіць. Прабіў асьвятленьне на вуліцах у вёсцы. Палепшылася мэдыцына — раней быў толькі фэльчарска-акушэрскі пункт (ФАП), цяпер зрабілі амбуляторыю. Але за сваю-ж дзейнасьць пацярпеў — звалілі са школы, цяпер я беспрацоўны. Ціск адчуваецца на кожным кроку. Дапамагаюць сябры, маральная падтрымка адчуваецца ад людзей, сярод якіх жыву.

Затым госьці адказалі на пытаньні прысутных. У прыватнасьці, Л. Арлоў на пытаньне адносна падвышэньня ўзроўню жыцьця пры Лукашэнку адказаў так: "Зрухі да лепшага ў апошнія гады — гэта заслуга беларускага народу. Народ наш працавіты, кемлівы, адукаваны. Моладзь наша перамагае на міжнародных студэнцкіх і вучнёўскіх алімпіядах. П'юць менш чым у Расеі. Стараюцца зарабіць грошай, а не спусьціць іх. Але прадпрымальніцтва ў нас у загоне, разьвярнуцца і рэалізаваць сябе для шмат каго з маладых немагчыма, людзі едуць за мяжу. Таму каб не Лукашэнка — у нас было-б значна лепей, было-б значна далей ужо, чым сёньня. З намі ў 1991 годзе на адным прыкладна ўзроўні былі Чэхія, Славенія; краіны як Польшча нават горшыя былі. А цяпер час загублены, належнага ўкладаньня капіталу ў аднаўленьне вытворчасьці няма, абсталяваньне амартызуецца, старэе. Шмат даўгабуду. Грошы марнуюцца на аграгарадкі; грошы вялікія, але як у прорву. Катэджы па 30 тыс. даляраў — каму гэта і нашто? Законы так складзеныя, што не парушыць — немагчыма. Кожны кіраўнік прадпрыемства — патэнцыйна падсудны. А хто ў такой атмасфэры будзе праяўляць ініцыятыву, працаваць напоўніцу? Жывем старымі запасамі ды таннай расейскай сыравінай. Ясна, што вечна так ня будзе, і за гэтыя "цуды" лукашэнкавай эканомікі расплочвацца будзе народ." Віталь Прыхач дадаў: "Зьедзьце ўбок з аўтастрады, і будзе відаць адваротны бок гэтага цуду Лукашэнкі — бруд і галеча, вёскі вымiраюць."

На пытаньне пра стаўленьне ўладаў да беларускай мовы сп. Прыхач сказаў: "Лукашэнка зьневажае і нішчыць беларускую мову. Вычышчаецца ўсё, што яшчэ засталося па-беларуску. Кожны беларускамоўны аўтаматычна трапляе ў ворагі рэжыму. Але нягледзячы на ўсё гэта, на цяжкасьці з навучаньнем па-беларуску, на ўціск, на пагарду — людзі не выракаюцца мовы. Гляньце на тэсты, іспыты па-беларуску па школьнай праграме, у тым ліку па матэматыцы. Іх сьпэцыяльна робяць цяжэйшымі, зьмест больш складаны. А людзі — выбіраюць па-беларуску, і здаюць, і на "выдатна". Таму калі будзе нармальны беларускі ўрад, вернецца і беларуская мова."

Адказ на пытаньне пра сатэлітнае тэлебачаньне (сп. Антусевіч): "Спробы стварыць сатэлітнае тэлебачаньне для Беларусі — гэта выдатны праект, што мог-бы закласьці падмурак беларускага грамадзкага тэлебачаньня. У насельніцтва досыць шмат сатэлітных антэнаў. Людзям надакучвае прапаганда., купляюць талеркі, глядзяць сатэлітнае тэлебачаньне, слухаюць "Радыё Свабода". Але і тут ёсьць праблемы. Напрыклад, праграму навінаў "Эўраньюз" — пераклад на расейскую мову расейская кампанія, і ейны пераклад неадэкватны, скажоны. Асабліва гэта заўважна было падчас падзеяў сакавіка. Пераклады па-расейску мелі адваротны сэнс да таго, што прагучала ў арыгінале. Таму ўсе праграмы мусяць рабіць беларускія незалежныя журналісты, а не наймiты аднекуль з Расеі."

Пра падзеі 19-25 сакавіка: "У абласных цэнтрах і меншых гарадох ведалі, рыхтаваліся, але былі арыштаваныя штабы апазыцыі на месцах, блякаваныя праз ДАІ й міліцыю выезды, транспарт, нават грамадзкі, рэйсавы. Таксама бракавала каардынацыі з цэнтру, зь Менску. У Горадні сабралася 200 чалавек нават без арганізацыі, але што далей? Чаму кааліцыя не арганізавала людзей — балючае пытаньне. Тут напэўна і брак арганізацыі, і ўласныя амбіцыі лідараў, і тэрор уладаў, і праца спрацавала. Наагул на месцах розныя апазыцыйныя партыі супрацоўнічаюць, дапамагаюць адзін аднаму. А наверсе ўжо ня так, насьцярожанасьць, неразуменьне. Цяпер гэта мусіць быць самай галоўнай задачай — мацаваць салідарнасьць. Пасьля сакавіка прыток у партыі апазыцыі значна павялічыўся. Каб разгарнуўся шырокі рух, кшталту "За свабоду", надпартыйны, дык значна болей людзей далучылася-б."

Госьці таксама адказалі на пытаньні пра руйнаваньне старажытных помнікаў у Горадні, пра ролю Расеі й Пуціна ў беларускіх падзеях, пра штодзённую дзейнасьць апазыцыйных палітычных партыяў на месцах. Затым, у нефармальнай частцы сустрэчы, госьці й гаспадары вялі тавары́скія размовы, абмяняліся кантактнай інфармацыяй. Гучэлі беларускія песьні. Госьці наведалі царкоўную залю на другім паверсе будынку Сабору.

Скончылася сустрэча супольным сьпяваньнем беларускага рэлігійнага гімну "Магутны Божа".

**Віталь ЗАЙКА**




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org № 12 (491)


# Лістападаўскі сход аддзелу БАЗА

Чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 12 лістапада. Як звычайна, у грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага сабраліся сябры й госьці аддзелу. Усяго прысутных было 67 чалавек. Першы выступіў старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка, ён расказаў пра апошнія падзеі ў Беларусі, а менавіта пра перасьлед апазыцыйных палітыкаў, надыходзячыя выбары ў мясцовыя органы ўлады і пра новы раўнд беларуска-расейскіага спаборніцтва па коштах на газ і энэрганосьбіты

Затым слова ўзяла сакратар аддзелу спн. Валянціна Якімовіч. Яна нагадала пра памерлага летась паэта Анатоля Сыса і пра тое, што 26 кастрычніка споўнілася-б яму 47 гадоў. В. Якімовіч распавяла пра жыцьцёвы шлях паэты, пра свае сустрэчы і размовы зь ім. Яна расказала, што ў менскіх рэдакцыях ляжаць амаль гатовыя да выданьня зборнікі твораў паэта, але бракуе сродкаў для выданьня. Прамоўца заклікала прысутных далучыцца да збору сродкаў на публікацыю твораў паэты. Затым прагучэлі вершы Анатоля Сыса: "Угэтай краіне не маю я волі..." (Маналёг Апанаса Філіповіча), "Беларусі", "Сабака", "Дух". Пад уплывам праслуханых вершаў прысутныя сабралі на кнігу паэты больш за пяцьсот даляраў.

Пра становішча ў Беларусі распавёў старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Ён адзначыў, што Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя БНФ засталася адзінай партыяй, якая стаіць на пазыцыях Беларускага Адраджэньня. У сёнешніх умовах становішча пагаршаецца штобалей. Рэжым Лукашэнкі працягвае нішчыць рэшты беларускай культуры, вычышчае тое, што яшчэ не было зьнішчана і сплюжана за 12 з гакам гадоў антыбеларускага шабашу маскоўскіх наймітаў. Ідэя рэжыму — паказаць усім і кожнаму, што Лукашэнка ня мае ані на каліўца, ані на драбок нічога ўласна беларускага. І таму, як "чысты" ад усяго беларускага, ён ёсьць ідэальны расеец і найлепшы кандыдат на пасаду ў Крамлі. Тымчасам расейская палітыка, палітыка Пуціна набірае штоболей рысаў, якія нагадваюць сёнешнюю Расею да Нямеччыны 1930-х гадоў. Касуюцца правы і свабоды грамадзянаў, перасьлед па расавай прыкмеце ўвайшоў у штодзённы ўжытак — варта толькі згадаць перасьлед і дэпартацыі грузінаў, якія зьяўляюцца расейскімі грамадзянамі.

Нажаль, Эўропа не рэагуе на гэта адпаведным чынам. Эўропа маўчыць. Напэўна прычынай гэтага — танныя нафта і газ, што цякуць да яе з усходу. Так некалі маўчаў Чэмбэрлен перад Гітлерам, і мы ўсе ведаем, да чаго гэта прывяло. Пытаньне — чаго нам, беларусам, чакаць зараз ад Расеі. Справа выглядае выразна акрэсьленай — расейскія кіруючыя колы хочуць пераўвасобіць, "манэтызаваць" свой уплыў у Беларусі, сваю падтрымку Лукашэнкі ў рэальныя грашовыя сродкі для сябе. Таму гэты ціск з усходу адносна прыняцьця расейскага рубля як адзінай валюты, канстытуцыі "саюзнай дзяржавы", газавы шантаж і г. д. Беларуская нацыянальная ідэя і людзі, што яе падтрымліваюць, ёсьць непасрэдная пагроза для плянаў клану Пуціна, і таму гэты клан у хаўрусе з Лукашэнкам, і таму для клану гэтага ўсё беларускае — сьмяротна варожае. Так сьмяротна варожая беларускасьць самому Лукашэнку, але зь іншай прычыны.

Раптам зьяўляюцца заявы асобаў кшталту Нісьцюка (з так званай сацыял-дэмакратычнай Грамады), што некалі зь лягеру Лукашэнкі перакінуліся ў апазыцыю, а цяпер зноў усхваляюць Лукашэнку. Ідзе праца, ідзе падрыхтоўка глебы па ўсіх кірунках. Ідзе працэс вынішчэньня нацыянальных арганізацыяў, перасьлед моладзі. Выходзіць закон аб ухіленьні ад войска, пад які аўтаматычна падпадаюць усе, хто вучыцца, ці наагул знаходзіцца, за мяжой. Тыя, хто адтуль вяртаецца — фактычна пазбаўляюцца вялікай часткі ўсіх зароблены сродкаў.

"Мы прапануем актыўны байкот, пераконваем усіх, каб засьведчылі факт свайго нязгоды ў выбарах. Нажаль, людзі паддаюцца ілюзіям, што яны могуць нешта зрабіць ва ўмовах перадвыбарчай кампаніі. А гэта – самаабман. Гэта — крокі ўбок легітымізацыі рэжыму. Мы разумеем, што цяпер ня можа быць імгненнай перамогі. Але нацыянальныя сілы нарошчваюцца. Так было ў 1980-я і напачатку 1990-х, так ёсьць цяпер. Цяпер важна назапашваньне сілаў, інфармацыя, распаўсюд нацыянальных ідэяў сярод людзей, адукаваньне. У нас ёсьць справядлівая, незаплямленая ідэя. Ідэя, што павядзе за сабою, што падыме сотні тысяч і мільёны людзей. А таму без адпаведнай нацыянальнай падрыхтоўкі, без адчуцьця сэрцам нацыянальных каштоўнасьцяў, без патрыятызму, сьведамасьці, да якіх кожны дайшоў сам, нічога ня будзе. Інфармацыя, факты і лічбы ўспрымаюцца розумам. А прыналежнасьць да Беларусі, да свайго народу, пачуцьцё адказнасьці за будучыню яго — прыходзіць толькі праз сэрца. Бо сэрцам будзе жыць, і будзе адроджаная Беларусь".

Затым з аповедам пра падарожжа Старшыні Рады БНР і пра захады ў справе працягу дзеяньня Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі выступіў рэдактар часапісу "Belarusian Review" Вячка Станкевіч.

Прагучэлі аб'явы, і пасьля дыскусіі аб працэдуры адбылося галасаваньне па выбарах дэлегатаў на маючы неўзабаве адбыцца Кангрэс БАЗА.

*Віталь ЗАЙКА*

## ЗАПРАШАЕМ

на сьвяткаваньне Новага 2007 году, якое пачнецца 31-га сьнежня 2006-га году а 10-й гадз. вечара ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага на 401 Atlantic Ave. у Брукліне.

Вас будуць чакаюць смачныя стравы, добрыя напоі, вясёлая музыка, танцы, гульні, прыемныя знаёмствы! Граць і сьпяваць будзе трыо сям'і КАЗАКОЎ.

Кошт квітка $60. Месцы замаўляйце ў сп. Сяргея ПЯТРОВІЧА:

*Sergei Petrovich*
*115 Ave. S, Apt. #9*
*Brooklyn, NY 11223* Тэл. *(718)265-3648*

Чэкі, калі ласка, выпісвайце на *Belarusan American Association.*

## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА
### Ахвяраваньні й складкі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| А. Будынін | 30 | В. Парамонава | 30 |
| А. Дзямчук | 30 | В. Пуговіч | 30 |
| А. Жураўлёва | 30 | П. Рудоха | 30 |
| В. Казлоўскі | 30 | В. Сарокіна | 30 |
| І. Караленка | 30 | К. Харыла | 30 |
| Я. Клачко | 30 | Г. Цішчанка | 30 |
| А. Колбун | 30 | Т. Чэркас | 30 |
| Р. Лубешка | 30 | Н. Явід | 30 |
| С. Лукашэня | 30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

## ПАДПІСКА
### на выданьні зь Беларусі на першую палову 2007 году
### З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа:

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватная, беларуская | 4 на месяц | 85 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 40 |
| Часапісы: | **Arche**, прыватны, беларуская | 5 на 6 месяцаў | 60 |
| | **Дзеяслоў**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

### Жыхарам Беларусі (сваякам і знаёмым):

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватная, беларуская | 4 на месяц | 25 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 5 |
| | **Народная Воля**, прыватная, бел., рас | 16 на месяц | 35 |
| Часапісы: | **Arche**, прыватны, беларуская | 5 на 6 месяцаў | 15 |
| | **Дзеяслоў**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 10 |

Вы можаце выпісаць і іншыя выданьні зь Беларусі. Па інфармацыю зьвяртайцеся на адрас: **hazetabielarus@att.net**

***Заўвага:** газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*

***Дасылайце свае замовы на падпіску і аплату да 13 сьнежня 2007 году на адрас: BIELARUS, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735.***

*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя BIELARUS.*

**Уплаты ў Нью Ёрскі аддзел БАЗА дасылайце на адрас:**

*Sergei Petrovich*
*115 Ave. S apt. 9*
*Brooklyn, NY 11223*

**Чэкі выпісвайце на** *Belarusan American Association.*

## Увага! Наступны сход

нью ёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **10 сьнежня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага па адрасу: ***401 Atlantic Avenue ў Брукліне***

Пачатак сходу апаўдні. Запрашаем усіх жадаючых.

Даезд цягнікамі падземкі **A**, **C** да станцы **Hoyt-Shermerhorn St.** або цягніком **F** да станцы **Bergen St.**

***На гэтай бачыне друкуем капіі некаторых лістоў, якія былі дасланыя амэрыканскімі ўрадоўцамі на 27 Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Гэтыя дакумэнты паказваюць важнасьць працы, прароблений беларускай грамадой падчас сёлетняга форуму 2–3 верасьня.***

ENERGY AND COMMERCE COMMITTEE:
ENERGY AND AIR QUALITY SUBCOMMITTEE
ENVIRONMENT AND HAZARDOUS MATERIALS SUBCOMMITTEE
HEALTH SUBCOMMITTEE
RESOURCES COMMITTEE:
FISHERIES CONSERVATION, WILDLIFE AND OCEANS SUBCOMMITTEE
RANKING MEMBER
DEMOCRATIC POLICY COMMITTEE:
COMMUNICATIONS CHAIR
http://www.house.gov/pallone

FRANK PALLONE, JR.
6TH DISTRICT, NEW JERSEY

**Congress of the United States**
**House of Representatives**
**Washington, DC 20515–3006**

September 1, 2006

REPLY TO:
WASHINGTON OFFICE:
☐ 420 CANNON HOUSE OFFICE BUILDING
WASHINGTON, DC 20515-3006
TELEPHONE: (202) 225-4671
DISTRICT OFFICES:
☐ 504 BROADWAY
LONG BRANCH, NJ 07740
(732) 571-1140
☐ 67/69 CHURCH STREET
KILMER SQUARE
NEW BRUNSWICK, NJ 08901
(732) 249-8892
☐ I.E.I. AIRPORT PLAZA
1300 ROUTE 36, #104
HAZLET, NJ 07730-1701
(732) 264-9104

Dear Friends,

I am sorry that I could not be with you this weekend for the 27th Biennial Convention of Belarusans in North America. I have always worked to promote democracy in Belarus, and am grateful for your organization's efforts to heighten awareness of the tragic events occurring in Belarus.

I am tremendously concerned with the attacks on democracy by the Lukashenka regime, such as suppressing freedom of speech, muzzling the independent press and denying opposition parties access to state-owned media. I was a cosponsor of the Belarus Democracy Act of 2004, which was signed into law in October of 2004. This piece of legislation took great steps to increase the involvement of the United States in promoting democracy in Belarus.

President Lukashenka has suppressed Belarus's progress toward democracy and a free market economy and created an authoritarian, Soviet-style regime. He is truly Europe's last dictator. In March, I sent a letter to the Belarusian Embassy expressing my concerns over the intimidation tactics of Lukashenka against his political opponent Aleksandr Kazulin. For the people of Belarus to be truly free, intimidation tactics such as this must cease and free, transparent elections must occur.

These attacks on freedom and democracy must come to an end in Belarus. It is organizations like yours that are creating progress and channeling international pressure on the Lukashenka regime. It is my hope that together we can bring an end to this horrific tyranny.

Sincerely,

Frank Pallone Jr.

FRANK PALLONE, JR.
Member of Congress

STATE OF NEW JERSEY
EXECUTIVE DEPARTMENT

## Proclamation

***WHEREAS**, New Jersey takes great pride in its cultural diversity and the Belarusian American community plays an important part in that diversity; and*

***WHEREAS**, New Jerseyans of Belarusian heritage have made and continue to make immeasurable contributions to the social, cultural and economic life of the Garden State through the incorporation of their rich spiritual and cultural heritage; and*

***WHEREAS**, the indomitable spirit of Belarusians, their deep sense of ethnic identity, love of freedom, and determination motivates them to a rally "In Defense of Democracy in Belarus"; and*

***WHEREAS**, Alexander Lukashenka has brutally suppressed all opposition to his dictatorial policies by imprisoning, kidnapping, or killing members of the democratic opposition, making Belarus the last bastion of the failed Soviet empire; and*

***WHEREAS**, during this year's convention, the Belarusan American Association remarks on the importance of the results of the March 19th presidential election in Belarus, in hope that the authoritarian and soviet-protégé Alexander Lukashenka, who was elected as President of Belarus in 1994, will be defeated, as well as paying tribute to the victims of Lukashenka; and*

***WHEREAS**, over the years the Belarusian-American Association in New Jersey strived to raise awareness of its elected leaders to the tragic events in Belarus and to advocate promotion of democracy and human rights as well as the elimination of tyranny in Belarus; and*

***WHEREAS**, on September 2, 2006, the Belarusian American Association Inc. will host the 27th Biennial Convention of Belarusians in North America, which will be take place during the Labor Day weekend at the Hyatt Regency in New Brunswick, New Jersey;*

***NOW, THEREFORE, I, JON S. CORZINE**, Governor of the State of New Jersey, do hereby recognize and commend the*

**BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.**

*in New Jersey, and recognize the outstanding contributions bestowed upon the Garden State by the Americans of Belarusian descent who live and work in our State.*

***GIVEN**, under my hand and the Great Seal of the State of New Jersey, this second day of September in the year of Our Lord two thousand six and of the Independence of the United States, the two hundred and thirtieth.*

**GOVERNOR**

**BY THE GOVERNOR:**

# Шаноўныя чытачы!

Рэдакцыя "Беларуса" выдрукавала насьценны калянДар на **2007** год. Ён мае выгляд каляровага плякату памерам **28 X 43 см** (**11 X 17 цаляў**). Упрыгожаны ён здымкам сп. Сяргея Капыткі, зробленым на дэманстрацыі, якую ладзіла БАЗА на Мангэтане 19 сакавіка 2007 году ў дзень прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.

**Усе, хто выпісваў газэту сёлета і падпісаўся на 2007 год, атрымаюць каляндар у падарунак.**

Выданьне календара сталася магчымым дзякуючы ахвярнасьці нашых падпісчыкаў і ахвярадаўцаў. ***Вялікі ім дзякуй!*** Спадзяёмся на вашую падтрымку і ў будучым, каб друк такіх календароў стаў нашым традыцыйным праектам.

Тым, хто жадае набыць дадатковыя асобнікі календара альбо не зьяўляецца падпісчыкам, можна замовіць іх па кошце **$5** за асобнік, даслаўшы аплату ў рэдакцыю. *Не забудзьце паведаміць дакладны адрас, куды трэба будзе даслаць вашую замову.*

Кошт календара ўлучае і паштовую дасылку ў межах ЗША. Да замоваў зь іншых краінаў дадайце, калі ласка, яшчэ **$2** (Канада **$1**).

Жыве Беларусь!

КАЛЕНДАР ГАЗЭТЫ БЕЛАРУС 2007

# АБВЕСТКА

Рэдакцыя газэты "Беларус" пачынае падрыхтоўку да выданьня літаратурнага дадатку да газэты. Гэта будзе літаратурны зборнік мастацкіх твораў у выглядзе "тоўстага" часапісу.

Зьмясьціць свае творы ў зборніку маюць права ўсе аўтары, якія пішуць па-беларуску ў самых розных літаратурных накірунках. Адзінае патрабаваньне — аўтары павінны жыць па-за межамі Беларусі. Ёсьць задума выдаваць такі зборнік штогод.

Плянуемы час выхаду ў сьвет гэтага зборніка — сярэдзіна наступнага 2007 году.

Свае творы аўтарам найлепш дасылаць у рэдакцыю электроннай поштай на адрас *hazetabielarus@att.net* У выключных выпадках, калі аўтары ня маюць доступу да сусьветнага сеціва, творы можна даслаць поштаю запісанымі на СК ці KVK альбо надрукаванымі на паперы на адрас рэдакцыі:

*BIELARUS / P. O. Box 3225 / Farmingdale, NY 11735 USA*

Тэксты пажадана пісаць тарашкевіцай. Творы напісаныя наркомаўкай, у зборніку будуць надрукаваныя тарашкевіцай.

Кожнаму аўтару, хто вырашыць даслаць творы для зборніка, пажадана таксама даслаць свой невялікі партрэтны здымак і кароткую аўтабіяграфію і, калі захочуць, дадатковую інфармацыю пра сябе, якую яны хацелі-б паведаміць сваім чытачам.

Апошні тэрмін для дасылкі твораў 31 травеня 2007 году.

Пасьля выхаду зборніка ў сьвет кожны аўтар атрымае адзін асобнік зборніка бясплатна. Аўтары пры жаданьні таксама будуць мець магчымасьць замовіць дадатковую колькасьць асобнікаў па сабекошту, які будзе паведамлены ім пазьней.

Ганарараў аўтарам рэдакцыя "Беларуса", нажаль, выплочваць ня можа, бо не зьяўляецца камэрцыйным выданьнем, а існуе выключна дзякуючы падтрымцы падпісчыкаў і ахвярадаўцаў.

Ці вы пачатковец, які толькі адчуў у сабе здольнасьць да прыгожага пісьменства, ці ўжо вядомы літаратар, але не прапусьціце ўнікальную магчымасьць данесьці свае творы да чытачоў.

Далучайцеся да нашага праекту!

З пытаньнямі кантактуйце рэдакцыю. Жадаем посьпеху!

# Парыж гаворыць: "Беларусь!"

На працягу тыдня ў Парыжы праходзіў фэст "Мы гаворым – Беларусь?", які быў прымеркаваны да традыцыйнага Дня беларускай салідарнасьці, што праводзіцца ў 16-ы дзень кожнага месяца. Фэставая праграма ўключала ў сябе больш за дзясятак культурных і грамадзкіх мерапрыемстваў, якія адбываліся ў розных залах французскай сталіцы.

Дні салідарнасьці зь Беларусьсю, якія штомесяц праводзяцца грамадзкімі, палітычнымі й культурнымі арганізацыямі ў Эўропе і Паўночнай Амэрыцы, у апошні час перайшлі са статусу лякальных палітычных акцыяў у статус буйных грамадзка-культурных мерапрыемстваў. У іх прымае ўдзел усё больш палітыкаў, грамадзкіх дзеячаў і дзеячаў культуры першай велічыні.

Варшаўскі канцэрт рок-музыкаў у падтрымку Беларусі з удзелам Анджэя Вайды; выступ беларускіх акцёраў і музыкаў на сцэне Швэдзкага каралеўскага тэатру; праект "Музыкі сьвету ў падтрымку Беларусі", які стартаваў з выступу ў Менску тройкі вядучых эўрапейскіх дзі-джэяў; прэзэнтацыя п'есаў беларускіх драматургаў у Нью-Ёрку, якая прайшла пад апекаю Тома Стоппарда – гэта няпоўны пералік культурных падзеяў, што праводзяцца ў рамках Дня салідарнасьці.

Фэст "Мы гаворым – Беларусь?" паспрабаваў пазнаёміць парыжанаў ня толькі з прадстаўнікамі беларускай контр-культуры, але і далучыць французаў да дыскусіі аб тым, якімі могуць быць узаемаадносіны паміж Беларусьсю і Францыяй; як могуць дапамагчы француская грамадзтва ў справе вяртаньня дэмакратыі ў Беларусь; нарэшце, толькі цікавая для Францыі беларуская культура.

Праграма фэсту была насычанай і разнастайнай: фатавыстава, спэктакль, канцэрты, кінапаказы, дыскусіі. Усе мерапрыемствы нязьменна праходзілі ў перапоўненых залях і выклікалі вялікую цікавасьць парыжанаў.

Канцэрты Зьміцера Вайцюшкевіча з ягоным "WZ-аркестрам" і Касі Камоцкай адбыліся з аншлягамі й былі падтрыманы авацыямі на працягу ўсяго выступу беларускіх музыкаў. Напярэдадні іх выступу адбыўся паказ працаў беларускага кінарэжысэра-дакумэнталіста Юрыя Хашчавацкага. Француская публіка, якая цалкам запоўніла залю "Дома Эўропы і Ўсходу", прагледзела фільм "Звычайны прэзыдэнт" і працоўны матар'ял новага фільму рэжысэра "Плошча Каліноўскага". Пасьля паказу гледачы не адпускалі рэжысэра на працягу двух гадзінаў, закідваючы яго пытаньнямі. На працягу ўсяго часу фэсту ў Парыжы працавалі дзьве фатавыставы, якія знаёмілі французаў з жыцьцём і людзьмі Беларусі. Адная зь іх – выстава працаў фатамастака Джэфа Баніфацына – пазнаёміла парыжанаў з партрэтамі вядучых дзеячаў нефармальнага мастацтва Беларусі.

Кульмінацыяй фэсту стаў паказ спэктакля "Свабоднага тэатру" "Пакаленьне Jeans", які праходзіў у тэатры Theatre-Studio, што зьяўляецца сядзібай "Свабоднага тэатру" ў Заходняй Эўропе. На сцэне менавіта гэтага тэатру на вясну запляванныя першыя вялікія гастролі тэатру ў Парыжы, падчас якіх будзе паказана каля 20 спэктакляў "Свабоднага тэатру".

Кажучы пра ўражаньні ад спэктаклю, Крысьціан Бенэдэцьці сказаў: "Падчас падзеньня Берлінскай сьцяны я быў у нямецкай сталіцы, і ўсе мы стаялі ў чарзе па абломкі сымбаля таго часу, які абрушыўся. Тады кожны з нас атрымаў на памяць па кавалачку Турмы. Падчас спэктаклю "Пакаленьне Jeans" мне працягнулі джынсавую стужку, і я зразумеў, што гэтым разам атрымаў у падарунак кавалачак сапраўднай Свабоды".

Парыскі праект стаў магчымы шмат у чым дзякуючы энтузіязму дырэктара праекту – Ганьне Дзідзье, якая ня ўтойвала валанцёрскую аснову акцыі: "Перавага беларускага праекту – у яго прастаце: мінімальная колькасьць сродкаў і максімум вынаходлівасьці. Акрамя таго, усё адбылося дзякуючы духу салідарнасьці, які панаваў паміж арганізатарамі, удзельнікамі праекту і парыскай публікай. Мы ведалі, што зможам закрануць сэрцы парыжанаў, але не маглі выказаць здагадку, што іх увага і падтрымка будуць настолькі гарачымі".


*Кіраўнік праекту Ганна Дзідзье.*

*Хартыя–97*

## Пасьляваенная страта

Падчас апошняй вайны (1939-1945) беларусы, расейцы, украінцы й іншыя народы колішняга СССР ваявалі зь Нямеччынай, Фінляндыяй і коратка зь Японіяй. Пасьля вайны Расея павялічыла сваю тэрыторыю коштам гэтых краёў. А што атрымала Беларусь? Беларусь ня толькі што не павялічылася, а нават ПАМЕНШАЛА тэрытарыяльна, страціўшы этнічна беларускую Беласточчыну на карысьць Польшчы.

Вось як "старэйшы" брат-расіянін патурбаваўся аб справах свайго "малодшага" брата-беларуса. Калі-б Расея сапраўды старалася для дабра Беларусі, дык ня толькі-б не падаравала Беласточчыну палякам, а далучыла-б да Беларусі частку Ўсходняй Прусіі, і тады-б Беларусь мела выхад да Балтыйскага мора. І пра якую "брацкую дружбу" можна цяпер гаварыць?

## Як быццам можна выбіраць...

Зноў сумная вестка. У расейскамоўных школах Беларусі выкладаньне гісторыі Беларусі будзе весьціся на... расейскай мове. Пераход гэты не на нашу карысьць, і ёсьць зьяваю ненатуральнаю.

Міністэрства адукацыі такую пастанову апраўдвае наступны: "Гэта зьвязана з пэрыядычнымі зваротамі грамадзянаў у Міністэрства адносна таго, што мы не даем магчымасьці вывучаць гісторыю Беларусі на расейскай мове..." Хочацца думаць, што такія "пэрыядычныя звароты" рабілі альбо вучні, альбо іхныя бацькі, і не было ніякага захоўваньня да гэтага, і што Міністэрства адукацыі ўстанавіла, што бальшыня вучняў расейскамоўных школаў жадаюць такой зьмены.

Гісторыя, як ведама, гэта вывучэньне мінулых падзеяў у жыцьці народа, дзяржавы, людзей і г. д. Такое вывучэньне вядзецца па ўсяму цывілізаванаму сьвету на мове карэннага насельніцтва, а не на мове суседзяў.

Паляк і летувісы сваю гісторыю паважаюць і шануюць. І ў іхных школах гісторыя і геаграфія выкладаюцца адпаведна толькі папольску і па-летувіску. І слушна. А ў Беларусі заўжды інакш...

## Удакладненьне правапісу

Паводле паведамленьняў прэсы сп. А. Лукашэнка выдаў указ аб выпрацоўцы й увядзеньні новых правілаў у беларускую артаграфію і пунктуацыю. Аб рэфармаваньні правапісу беларускай мовы гаварылася і пісалася шмат разоў. І кожную спробу гэтай паважнай справы трэба вітаць з задавальненьнем, калі рабіцца яны будуць з чыста лінгвістычнага пункту гледжаньня і для дабра беларускай мовы. Бо, нажаль, мінулыя рэформы рабіліся з адной мэтай – наблізіць правапіс беларускай мовы да расейскай.

Дык няма нічога дзіўнага, што шмат хто ставіцца скептычна да новай прапановы ўпарадкаваньня правапісу, тым больш што ўказ паходзіць ад чалавека, які, скажам лёгка, не грашыць вялікай пашанай і любоўю да беларускай мовы.

Хачу нагадаць некаторыя дэталі гэтага дзіўнага і загадкавага ўказу. Паводле прэсы, ён загадаў наступнае:

- правесьці гэтую сур'ёзную працу на працягу двух тыдняў (сапраўды стаханаўскі тэмп);
- упарадкаваньне правапісу было даверанае Міністэрству адукацыі (нармальна такімі справамі займаецца Акадэмія навук).

*Міхась ШВЭДЗЮК, Англія*

# Успамін

Я часта ўспамінаю пра дзьве таленавітыя асобы, якія я спаткаў у сваім жыцьці, невядомага паэта і аднаго пісьменьніка. Калі я быў маладзейшы, у пачатку 1960-х гадоў, мала тады зьвяртаў увагі на тое, хто кім ёсьць і чым займаецца. У тыя часы штонядзелі я прыяжджаў на Багаслужбы ў царкву Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне. Пасьля службы звычайна спускаўся ў грамадзкую залю, дзе людзі пасьля маленьня зьбіраліся пагутарыць аб штодзённых справах.

Аднойчы да мяне падыйшоў нічым непрыкметны чалавек сярэдняга росту ў сярэднім веку. Ён мяне адвёў трошкі ўбок, спытаў адкуль я паходжу зь Беларусі. Я адказаў, што зь вёскі Іванкавічы. Чалавек той быў зьнешне вясёлы, але моцна турбаваўся, каб хаця-б хто-небудзь не пачуў нашую размову. Ён спытаў мяне, ці ведаю я гісторыю Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага. Я адказаў, што павярхоўна ведаю. Ён сказаў, што напісаў гістарычную паэму і пачаў яе чытаць. Там былі вершаваныя словы аб Сьв. Еўфрасіньні, Усяславу Чарадзею і аб іншых старадаўніх славутасьцях беларускай зямлі. Слухаў я ягоную паэму з захапленьнем, пачуваўся ўзвышана, із гонарам у сэрцы.

Я параіў яму аддаць гэты твор для друку ў газэту "Беларус". Але ён адказаў, што баіцца гэты твор публікаваць, бо тады знойдуцца людзі, якія яго загубяць. Я сказаў, што ў такім выпадку ён можа падпісацца псэўдонімам. Пра гэта ён таксама ні за што не хацеў слухаць, казаў, што яго выкрыюць і ён паплоціцца жыцьцём, бо твор ягоны прасякнуты патрыятызмам, скіраваны супраць захопнікаў і акупантаў Беларусі, якія прынесьлі ёй столькі гора.

Трэба дадаць, што запалохансьць таго чалавека не была такой ужо рэдкай зьявай для тых гадоў. Людзі, якія прыяжджалі ў ЗША пасьля Другой Сусьветнай вайны, вельмі баяліся савецкай выведкі й савецкіх шпіёнаў, баяліся, што калі будуць публічна казаць нешта супраць савецкай улады, то іх ці заб'юць, ці выкрадуць, каб завезьці ў Расею на расправу. Такія выпадкі здараліся падчас жыцьця ў Нямеччыне. Памятаю, як аднойчы каля беларускага лягеру ў Ватэнштэце саветчыкі схапілі чалавека і пхалі яго ў самаход, але людзі выбеглі зь лягеру на дарогу і літаральна вырвалі таго чалавека з рук ягоных захопнікаў і нават зьбілі аднаму зь іх з галавы шапку.

Мой новы знаёмы быў вельмі цікавы чалавек. З-за таго, што ён так баяўся, я тады навет не спытаў ягонага прозьвішча. А калі развітваўся, то меў надзею, што спаткаю яго ў наступную сьвятую нядзельку. У тыя часы ў царкву зьбіралася шмат народу. Гэта потым ужо большасьць разьехалася па іншых штатах краіны. Калі той чалавек адыходзіў, ён папрасіў мяне нікому не казаць пра нашую размову. Прайшло ўжо шмат гадоў, і я нікому пра гэта не казаў аж да гэтага часу.

Таго таленавітага чалавека я больш ніколі ня бачыў і так і ня ведаю, кім ён быў. Калі думаю пра гэта, то здаецца, што гэта была нейкая містычная зьява, і я моцна шкадую, што бачыў яго толькі адзін раз і ўсяго раз паслухаў ягоную паэму.

Яшчэ адным таленавітым чалавекам зь кім мне зьвяло жыцьцё ў тыя часы, быў сп. Мікола Целяш. Я быў знаёмы зь ім, але не працягла час. Часам бываў у іх дома. Ён быў жанаты зь вельмі прыгожаю жанчынаю і меў дзьве дачкі. Я ўпадаў за адною зь іх Славай.

Аднаго разу сп. Целяш спытаў мяне, якую я маю спэцыяльнасьць. Я адказаў, што ніякой, працую на гарадзкі ўрад гораду Гардэн Сіці, кашу траву, абрэзваю дрэвы й кусты. Відаць, яму гэта не спадабалася, бо ён сказаў мне, што хоча, каб я пры ім навучыўся працаваць на будоўлі дамоў. Праца, якой ён мяне хацеў навучыць, была абіваньне дамоў гонтамі (паангельску шынглс). Я пагадзіўся папрацаваць зь ім падчас двухтыднёвых вакацыяў. Мне не хацелася дзеля такой вучобы пакідаць сталую працу, якая мне падабалася і добра аплочвалася. Вядома, што праца на будоўлях сэзонная, зімою яе няма. Так два тыдні я быў памочнікам сп. Міколы Целяша.

Праца была на Лёнг Айлендзе. Прыяжджалі мы рана, яшчэ іншых работнікаў не было, каб зрабіць прагрэс да паўдня, як яшчэ незагарача. Трэба было браць пук гонтаў (бандэл оф шынглс) і лезьці зь ім на плячы па драбінах часам аж на другі паверх, калі дом быў двухпавярховы. Абівалі перш тонкім гонтам, а потым таўсьцейшым. Сп. Целяш быў у тых гадох, што і мой бацька, але быў дужы і па драбінах лазіў хучэй за мяне. Падчас працы мы не размаўлялі, а малаткамі білі цьвікі ў гонты на адлегласьці, каб не перашкаджаць адзін другому. Я заўважыў, што Мікола болей аддаваўся думкам чым размовам, часам рабіў нейкія запісы. Магчыма ўплывала вялікая розьніца ва ўзросьце паміж намі. Ён быў перапоўнены ведамі й перажываньнямі, а я, як той казаў, быў толькі студэнтам у жыцьці. Я нават ня ведаў тады, што ён быў пісьменьнік.

На будоўлі я не застаўся, а працягваў працаваць на папярэдняй працы, якую меў круглы год, без перапынкаў зімою. Лёс закінуў мяне ў іншыя жыцьцёвыя турботы, і больш мы не спатыкаліся.

Праз нейкі час я даведаўся, што сп. М. Целяш зьнік, і ніхто ня ведае, дзе ён дзеўся. Жонка шукала, але ніякога выніку не было. Загадкавае зьнікненьне так і засталося нявысьветленым.

Цяпер мне вельмі шкада, што тыя дзьве асобы, зь якімі я толькі пасьпеў пазнаёміцца, так хутка зьніклі з майго жыцьця. Так хацелася-б, каб яны былі з намі, але іх ужо няма.

*Кастусь ВЕРАБЕЙ*

## Замаўляйце калядныя паштоўкі

Дашліце сёлета калядныя і навагоднія віншаваньні сваім родным і знаёмым на беларускіх паштоўках.

Кошт набору з 15 паштовак (па 5 кожнага віду) усяго $9 уключна зь перасылкай па ЗША. Можаце замаўляць іх паасобку по наступных коштах: 1-$0,75; 2-$0,6; 3-$0,6. Паштоўка 1 мае большы памер.

Замовы шліце на адрас:

*BIELARUS, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

Чэкі ці пераводы выпісвайце на імя *BIELARUS*.

*Таксама запрашаем наведаць нядаўна адкрытую інтэрнэтную краму газэты "Беларус" па адрасу:*

**www.e-krama.com**

*Там вы зможаце набыць беларускія кнігі, CD, касэты ды інш.*



1



2



3

***Шаноўныя чытачы!***
***Дасылайце навагоднія і калядныя віншаваньні родным і знаёмым для друку ў наступным нумары "Беларуса".***

# ВІНШУЕМ!

## Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва 55 гадоў



БІНіМу ў сьнежні сёлета спаўняецца 55 гадоў – значны век для арганізацыі такога кшталту. Чым вызначаецца БІНіМ сёньня? Даўгагадовы дырэктар Інстытуту др. Вітаўт Кіпель даў нам такую інфармацыю.

У пераліку дасягненьняў БІНіМу трэба найперш адзначыць "Запісы", орган Інстытуту, які выходзіць ад 1952 году. Цяпер друкуецца №31 гэтага зборніка. "Запісы" вырасьлі памерам. Калі №1 налічваў 64 стар., дык №№ 28 і 30 – 473 і 360 стар., адпаведна.

Галоўным рэдактарам "Запісаў" ад 17-га нумару зьяўляецца прафэсар Томас Бэрд. Рэдактарамі паасобных выпускаў былі Зьміцер Саўка, Алег і Натальля Гардзіенкі, Лявон Юрэвіч, а ў склад рэдкалегіі ўваходзяць Антон Шукелайць, Ілона Ўрбановіч, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Генадзь Сагановіч, Сяргей Шупа, Надзея Старавойтава, Марат Клакоцкі, Юрка Станкевіч, Зьміцер Саўка, Юрась Гарбінскі, Лявон Юрэвіч, Алег і Натальля Гардзіенкі.

"Запісы" – пераважна беларускамоўнае выданьне, але зьмяшчаліся ў іх артыкулы й па-ангельску. Сотні тэмаў разглядаліся ў апублікаваных матар'ялах. Некаторыя артыкулы мелі асабліва вялікае значэньне, як, прыкладам, пра знаходку акварэляў беларускага мастака Эраста Сукоўскага. Паказьнікі зьместу артыкулаў і аўтараў, апублікаваных у "Запісах", друкаваліся ў нумарох 20 (1992 г.) і 25 (2001 г.).

У выдавецтве БІНіМу выйшла каля 30 кнігаў, а калі лічыць публікацыі ў супрацоўніцтве зь іншымі ўстановамі, такімі як Скарынінскі Цэнтар у Менску, ЗБС "Бацькаўшчына", Польская Акадэмія Навук, дык БІНіМ мае на сваім рахунку больш за 40 кніжак. У выдавецкай дзейнасьці Інстытуту важнае месца займаюць сэрыйныя выданьні: "Беларускія пісьменьнікі й паэты", "Бібліяграфічная сэрыя", "Да гісторыі беларускай эміграцыі". Некаторыя з друкаў БІНіМу набылі асаблівае значэньне – прыкладам, "Архівы БНР", "Беларусы ў ЗША", "Курапаты" ды іншыя. Важна падкрэсьліць і тое, што некаторыя БІНіМаўскія публікацыі пракладалі новыя шляхі ў беларусккую мінуўшчыну – прыкладам, аднаўленьне скарыніяны ды вывучэньне беларускай эміграцыі..

Да іншых паказьнікаў дзейнасьці БІНіМу трэба залічыць удзел у распрацоўцы мэмарандумаў ды ўдзел у слуханьнях, што адбываліся ў Кангрэсе ЗША, дзе дакумэнтаваліся сьведчаньні пра злачынствы камуністычнага рэжыму ў Беларусі.

Сябры БІНіМу бралі ўдзел у арганізаваньні й правядзеньні міжнародных канфэрэнцыяў, прысьвечаных вывучэньню СССР і Беларусі (прыкладам, у Ангельшчыне, 1989; Рыме, 1990; Камянец-Падольску, 1991; Любліне, 1992; Горадні, 1995; Троках, 1994; ды інш.)

БІНіМ быў арганізатарам дзясяткаў выставак – мастацкіх, этнаграфічных, друку. Сябры Інстытуту прачыталі каля тысячы дакладаў на розных навуковых форумах ды апублікавалі ў дзясятках англамоўных даведнікаў і энцыкляпэдыяў даведачныя матар'ялы пра Беларусь.

Кіраўнікі БІНіМу (В. Кіпель, Я. Запруднік, Т. Бэрд, Л. Юрэвіч) ці раз выказвалі думку, што вельмі важна забясьпечыць далейшую дзейнасьць гэтай установы, далучыць да яе маладзейшых дасьледнікаў. Старшыня БІНіМу В. Кіпель падкрэсьліў: "Дасюль існаваньне БІНіМу забясьпечвалі энтузіясты-дасьледнікі беларусаведы ды беларускае грамадзтва грашовымі ахвяраваньнямі на публікацыі. Гарантыя дзейнасьці БІНіМу на будучыню – далейшая праца актывістаў беларусаведы, а таксама грашовая ахвярнасьць з боку грамадзтва".

Дык шчыра віншуем БІНіМаўцаў з угодкамі. Жадаем далейшага багатага плёну. Многая лета!

***Рэдакцыя "Беларуса"***

*P. S. Управа БІНіМу просіць слаць ахвяраваньні на адрас:*
*BELARUSIAN INSTITUTE OF A&S, 330 Park Street, Haworth, NJ 07641*

## Творы Яна Станкевіча ў 4 тамах

***Нядаўна выйшаў з друку 4-ы том твораў Яна Станкевіча пад рэдакцыяй Валера Булгакава. Том называецца "Выбранае: За родную мову праўдзівы назоў" і асноўна зьмяшчае публіцыстыку аўтара. Кніга мае 740 старонак, звыш 250 артыкулаў, якія друкаваліся ў 24-х розных выданьнях, сярод іх "Гоман", "Беларуская газэта", "Бацькаўшчына", "Беларус", пачынаючы ад 1914-га году і да 1971-га году.***

***У кнізе 70 старонак камэнтароў Алеся Пашкевіча, Сафіі Багам'і, Валера Булгакава ды іменны паказьнік, у якім каля 800 прозьвішчаў.***

***Цана для ўстановаў $50 зьніжаная для чытачоў беларускай замежнай прэсы да $29 (зь перасылкай $34).***

***Просім зьвяртацца ў Паўночнай Амэрыцы на электронны. адрас:*** stankievichw@hotmail.com ***альбо на паштовы:***
W. Stankievich, 100 Seaview Ave. 4-2, Monmouth Beach, NJ 07750.
***З рэшты сьвету пішыце на:*** bulhakau@arche.org.by

*Засталася вельмі абмежаваная колькасьць папярэдніх тамоў твораў:*
***Лінгвістычныя творы,*** *2 тамы,* ***$30*** *(зь перасылкаю* ***$35****);*
***Гістарычныя творы,*** ***$28*** *(зь перасылкаю* ***$33****).*
*Увесь прыбытак ідзе на далейшыя выданьні Фундацыі імя Льва Сапегі.*

## Мастацкая выстава

У Музэі Сучаснага Расейскага Мастацтва ў горадзе Джэрзі Сіці, Нью Джэрзі, з 3-га па 24-га сьнежня 2006-га году будзе працаваць навагодняя выстава, на якой будуць выстаўленыя працы беларускага мастака АЛЕСЯ ШАТЭРНІКА і ягонай дачкі ЮЛІІ.

Адкрыцьцё выставы адбудзецца 3-га сьнежня ад 3 да 9 гадзіне папаўдні. Музэй знаходзіцца па адрасу:

***80 Grand Street, Jersey City, NJ, 07302***
***тэл. (347)325-4750 альбо (202)332-5200.***



# Віншуем

***Лену і Пятра РЫЖЫХ***
***з нараджэньнем сына Алеся. Няхай расьце здаровым і вясёлым на радасьць бацькам.***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| **К. Акула** | **50** |
| **Х. Кажаневіч. анг. фун.** | **20** |
| **Р. Назмітдзінаў** | **35** |
| **А. Будынін** | **30** |
| **А. Дзямчук** | **30** |
| **Н. Дробіна** | **30** |
| **А. Жураўлёва** | **30** |
| **В. Казлоўскі** | **30** |
| **І. Караленка** | **30** |
| **М. Каранеўскі** | **30** |
| **А. Колбун** | **30** |
| **А. Копат** | **30** |
| **С. Лукашэня** | **30** |
| **А. і К. Мярляк** | **30** |
| **І. Пашкевіч** | **30** |
| **В. Парамонава** | **30** |
| **В. Пуговіч** | **30** |
| **П. Рудоха** | **30** |
| **А. і П. Рыжыя** | **30** |
| **В. Сарокіна** | **30** |
| **І. Сурвілла** | **30** |
| **Н. Сяўрук** | **30** |
| **Г. Цішчанка** | **30** |
| **Т. Чэркас** | **30** |
| **М. Швэдзюк** | **30** |
| **Н. Явід** | **30** |
| **Я. Клачко** | **20** |

**Замест кветак на магілу Адольфа СУБОТЫ:**

| | |
|---|---|
| **І. Сурвілла** | **50** |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.



Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***
ISSN 1054-9455